Далей адв. Бабянскі даказывае нявіннасьць падсудных, гаворыць, што трэ зблізкацца з беларускім народам, запраўды як роўны з роўным, што запраўды існуе імкненьне да незалежнасьці Беларусі, бо гэта ёсьць народ, які пад Польшчаю тэрыторыяльна прадстаўляе **большасьць** за гэта суджаным быць ня можа. Польшча павінна пайсьці ім насустрэчу, каб народ беларускі гэта адчуваў, і беларусы тады будуць разам з палякамі. Прымусам нічога ня зробіцца! У канцы просіць суд аб апраўдальны прыгавар.

### 10 дзень.

Апошняе слова было дадзена кожнаму з абвінавачаных; але яны пераважна абмяжоўваліся просьбай аб апраўданьні.

Цікавейшая была заява **Бортнікава**, які сказаў: „Высокі суд, я папаў у рукі катаў, якія зьдзекаваліся нада мною у розныя спосабы. Затым п. пракурор сказаў, што я ў Літве бараніў інтарэсы літоўскай буржуазіі. Але не! гэта няпраўда, бо я бараніў інтарэсы пралетарыяту, бараніў права народу. Прыдзе час, калі мы будзем судзіць, а ня Вы. Няхай жыве ўвесь пралетарыят! Няхай жывуць“...

Старшыня суда перапыніў абв. Бортнікава і ня даў балей яму гаварыць.

### Прыгавор.

А $10\frac{1}{2}$ гадз. ўвечары быў прачытаны прыгавор суда, якім засуджаны:

**На 12 гад. катаргі** — Казюкевіч Леанард 28 г. з арт. 100, 102 ч. II К. К. 53, 51 U. Р. К., 455 параграф 12, 61.

**На 6 гад. катаргі** — Бортнікаў Уладзімір 24 г., з Літвы.

**На 4 гад. катаргі**—Адамеяя Пётр, 35 г., Юрэчко Базыль, 24 г., Бэрнатовіч Ігнат, 27 г., Туроніс Флёрыян, 36 г., Відзбэль Домінік, 24 г., Суботнік Ян, 21 г.

**На 3 гады папраўчага дому** — П. Перлайко, 28 гадоў, Міх. Моліс, 30 г., Уладз. Брыкач, 26 г.

**На 2 гады папраўч. дому** — Апонік Мікалай, 37 гадоў, Апонік Павал, 24 г., Апонік Уладзімер, 29 г., Міх. Хоцян, 30 г., Міх. Шэставіцкі, 24 г., Сымон Грыкас, 21 г., Ант. Юрканіс 18 г., Юз. Клімовіч 19 г., Стан. Краўневіч, 24 г., Ян Круш, 37 г., Юз. Мішчук, 25 г., Балесл. Мішкін, 24 г., Леонард Пыленко, 23 г., Карл Руселевіч, 24 г., Эпіфан Ушкевіч, 19 г., Ян Валентукевіч, 23 г.

**На $1\frac{1}{2}$ год. папраўчага дому** — Юзэф Хвесько, 28 г., Стэф. Шакалей, 25 г., Фёдар Дэжко, 31 г.

Усяго засуджана 30 чалавек.

Усім, хто атрымаў дом папраўы, залічаны 1 год сьледчага арышту, за выключэньнем Хвеські, Шакалея і Дзежкі, якія былі на свабодзе і засуджаны на $1\frac{1}{2}$ году.

37 чалавек звольнена зусім і таксама звольнены з абвіненьня Хоцян з арт. 562.

Матываваны прыгавор будзе аб'яўлены 13 траўня 1925 г.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Да выбуху ў рэдакцыі „Walka Ludu“.

У кватэры рэдактара „Walki Ludu“ Траяноўскага ў часе выбуху, як думаюць, робленай ім пэтарды (няшкодная „бомба“, якая ўжываецца толькі для выкліканьня панікі, ці псаваньня розных фальшыва-ўрачыстых настрояў таўпы...), — начаваў у другім пакоі і пасол з групы Баліна, п. Шапель.

### Замахі на чыгунках.

Сьледам за замахам на нямецкі цягнік у „гданскім калідоры“, за дзень 3 мая былі ажно два замахі на цягнікі.

Пад Люблінам на рэльсы была пакладзена куча каменьня перад праходам скорага поезда. Аднак, апошні прыпазьніўся, і замест яго быў пушчаны таварны цягнік, які толькі дзякуючы павольнаму ходу, не пацярпеў паважнейшае катастрофы. Толькі паравоз зышоў з рэльсаў. Няшчасьця з людзьмі ня было.

Другі замах меў месца каля Дукшт, на лініі Вільня—Дзьвінск—Рыга. Перад прэходам кур'ерскага цягніка сторож знайшоў пакладзеную пад мастом міну.

4 мая пасажырскі поезд, ідучы з Лодзі, чуць не наскачыў на кучу каменьня, пакладзенага на рэльсах на мосьце між станцыямі Анджэевым і Галькоўкам. Машыніст у пару дагледзіў небясьпеку і спыніў цягнік.

### Багаслаўленьне Папы польскім судом.

Польская правая прэса з захопленьнем прыводзіць „сьвятыя словы“, якімі Рымскі Папа багаславіў усе суды і іх дзеяльнасьці ў сучаснай Польшчы.

Бываўшаму на прыёме старшыні Найвышэйшага Адміністрацыйнага Трыбуналу Папа сказаў:

„Даю ад усяго сэрца табе і ўсім тваім калегам—польскім судзьдзям—мае багаслаўленьне для вашай працы“...

Можна толькі напомніць, што той самы „намесьнік Хрыста“ (сказаўшага ня толькі — „не забій“, але і „ня судзі“), той самы Рымскі Папа, які багаславіў цяпер—паміж іншым—і працу польскіх даразных судоў на „Крэсах“—даваў некалі такое-ж самае „апостальскае багаслаўленьне“ і „працы“ мураўёўскіх „судоў“—пасьля польскага паўстаньня ў 1863 годзе...

## Заграніцай.

### Суд у справе польскіх паштовых скрынак у Данцыгу.

Газэты паведамляюць, што Гаагскі Міжнародавы Трыбунал 10 траўня мае вынясьці свой прысуд у справе польскай пошты ў Данцыгу. Польскія газэты пусьцілі вестку, быццам прысуд мае быць памысны для Польшчы...

### Нямецкая прэса аб катастрофе ў Гданскім калідоры.

Нямецкая прэса вельмі лоўка выкарыстоўвае катастрофу нямецкага цягніка ў „польскім калідоры“. Прэса піша, што гэтая катастрофа найлепш даводзіць усю ненармальнасьць польска-нямецкай граніцы. Справа яе перагляду ўсё больш высоўваецца ходам выпадкаў.

### Польскія бандыты ў Францыі.

У сталіцы Бэльгіі арыштаваны галава банды, зложанай з палякоў, якая „працавала“ на поўначы саюзнай і прыязнай Францыі.

### Прыступленьне Гіндэнбурга да абавязкаў прэзыдэнта.

12 траўня Гіндэнбург прысягне на вернасьць рэспубліцы і канстытуцыі і прыступіць да сваіх абавязкаў прэзыдэнта. Цэрэмонія прысягі адбудзецца ня ў сойме, але ў палацы, бо баяцца, што ў сойме лявіца зробіць нешта кшталтам „кацячага канцэрту“ — на прывітаньне новага прэзыдэнта.

### Чэмбэрлен „традыцыйна кахае Францыю“.

На банкеце францускa-англійскага таварыства ў Лёндане міністар Чэмбэрлен заявіў у сваёй прамове, што любоў да Францыі, — традыцыйная ў яго сям'і... Трэба-ж, ведама, як-кебудзь пазалаціць тыя горкія „пігулкі“, якімі англійскі ўрад хоча вылячыць Францыю, хворую на „гэгемонію“.

### „Разбраеньне“...

У м. Шэфільд—„Сталёвым сэрцы Англіі“—адбылася вялікая „мірная“ ўрачыстасьць: зацьверджаньне пасьля спробаў новай... 16-цалёвай гарматы, спраектаванай англійскімі „пацыфістамі“... Спэцыялісты кажуць, што новая англійская гармата далёка пакідае за сабой знамянітую нямецкую 42 цэнтымэтравую (12 цаляў).

### Запрос аб бальшавіках у англіскім парляманце.

На паседжаньні парляманту ў адказ на інтэрпэляцыі прэм'ер Балдвін заявіў, што ўрад ня мае довадаў, што ў дыпляматычнай пошце з Масквы ў Лёндан пасылаецца агітацыйная літэратура.

На другую інтэрпэляцыю Балдвін адказаў, што ўрад не атрымаў пацьвярджэньня, быццам у прамове Зіновьева на паседжаньні III інтэрнацыяналу былі вельмі варожыя да Англіі мейсцы і гаварылася аб захватных плянах адносна Індыі.

### Працэс аб выбуху ў сафійскім Саборы.

На пачаўшымся працэсе аб выбуху ў саборы ў Софіі абвінавачаныя даюць сэнсацыйныя паказаньні.

Званар прызнаўся да ўчасьця ў замаху. Арыштаваны на граніцы камуніст Фрыдман дае паказаньні пры зачыненых дзьвярох, (бо ў справе вельмі далікатнай: аб учасьці ў замаху замежных урадаў — Югаславіі і ССРР).

Адзін з сьведкаў, які падтрымліваў зносіны з замахоўцамі (ведама-ж правакатар!) заявіў, што яны з сьведкам (разам!?) мелі ўзарваць гмах Сойму ў часе паседжаньня. Другі сьведка пацьвярдзіў гэтае-ж. Трэці сьведка паказаў, што ў замаху прымала ўчасьце жонка аднаго з былых прэм'ераў Баўгарыі... Прозьвішча гэтага прэм'ера суд пакуль-што трымае ў сакрэце...

Цэлы рад абвінавачаных сьведкаў дае вельмі кампрамітуючыя паказаньні аб дзеяльнасьці баўгарскіх эмігрантаў у Югаславіі.

5-га траўня ў Софіі пачаўся другі працэс аб замаху, які зроблены быў 5 гадоў назад у мястовым тэатры. Перад судом былы міністар Муравьев і начальнік сталічнай паліцыі Прудкін.

### Палажэньне ў Марокко.

З Лёндану паведамляюць, што ў Марокко палажэньне вельмі небясьпечнае. Гішпанскія войскі адступілі на ўзьбярэжжа, дык магчыма, што войскі Абдул-Керыма ўварвуцца на францускую тэрыторыю. Абдул-Керым фактычна ўжо ў вайне з Францыяй (?). Так падрыхтоўваецца той захват Марокко Францыяй, аб якім беларуская прэса пісала паўгоду назад.



# ХРОНІКА.

**Пазбаўленьне мандату дэпутата Якавюка.** Беларускі дэпутат ад Бельшчыны, Сымон Якавюк, засуджаны на беластоцкім працэсе „45“ на доўгалетні вастрог, як ведама, выехаў заграніцу, не чакаючы, пакуль яго пасадзяць за крату.

У сувязі з гэтым маршалак Сойму запрапанаваў соймавай камісіі па наказу прызнаць мандат Якавюка ўтрачаным.

Беларусы даўно ўжо ждуць гэтага, каб мейсца Якавюка заняў чародны кандыдат ад Бельшчыны па сьпіску № 16. Згодна з умовай пры закладзінах выбарнага блёку нацыянальных меншасьцяў, беларуса павінен заступаць толькі найбліжэйшы кандыдат беларус.

**Водгукі I мая.** Як піша „Słowo“, у Маладэчне на тэлеграфных стаўбох і на коміне вінакурні камуністы вывесілі чырвоныя сьцягі. Арыштаваны дзьве асобы.

Там-жа на могілках былі знойдзены камуністычныя адозвы ў беларускай мове.

Такія-ж адозвы былі параскіданы і ў мяст. Докшыцах, Вялейскага пав.

**Беларускае Навуковае Т-ва** дзякуе за прысланыя для музэю ім. Ів. Луцкевіча рэчы:

1) грам. А. Протасу, з в. Забалоцьця, Язьненск. гм., Дзісьненскага пав., — за манэты і два каменныя малаткі;

2) грам. Яну Грыневічу—за калекцыю расейскіх папяровых грошы.

**Ці йзноў замах?!** У Вільні ў ноч на 3 мая быў арыштаваны непадалёк ад парахоўні жаўнер 6 п. п. л., Шлёма Клейт, які ня мог сказаць, дзеля чаго ён тамака быў.

**З жыцьця „малых гарнізонаў“.** Горадзенскае „Nowe Życie“ наказуе, што 23-га красавіка ў казармах дакудзтва гарнізону паручык 1 дывізіёну коннага эскадрону пiянераў Булгак 4 стрэламі з рэвальвэру забіў на сьмерць начальніка дывізіёну ротмістра Важыньскага. Прычына забойства — сямейныя непаразуменьні.

— У Вільні 5-га мая застрэліўся на сьмерць з рэвальвэру жаўнер Адольф Лясковскі, 22 гадоў.

**Забойствы і рабункі.** „Słowo“ ў двух нумарох з 5 і 6 мая—падае багатую хроніку выпадкаў гэтага роду.

У в. Пакіны, Докшыцкае гміны, стрэлам з рэвальвэру забіты Кузьма Рабцэвіч—праўда-падобна на палітычным грунце.

3-га мая ў 9 гадз. раніцы ў Вільні стрэлам з рэвальвэру забіты ў сваей кватэры Міхал Прусэк.

Прусэк сьпярша быў пшодоўнікам у V камісарыяце м. Вільні, а пасьля быў скарбовым урадоўцам у Вялейцы, але і адтуль быў звольнены.

Паліцыя думае, што забойства зроблена з помсты, а толькі раскіданы ўсе рэчы, каб быў абраз грабяжа.

У Ашмянскім пав., у Палянскай гміне, 2 ўзброеныя рэвальвэрамі бандыты напалі на Пятра Жэрабовскага і зрабавалі ў яго 19 злотых.

Каля в. Пертюпе, Олькеніцкае гм., бандыты напалі на Ільлю Гейдарова і абрабавалі ў яго грошы.

У Мядзёльскай гміне, Дунілаўскага пав., нейкія злачынцы напалі на Зофію Ангельскую і зрабавалі ў яе пальто.

**Напад на паліцыянта ў Вільні.** 3 траўня на паліцыянта IV камісар'яту ў часе абходу напалі двое п'яных, якія зьбілі паліцыянта. Тады той тройчы стрэліў у іх. Адзін з нападаўшых ранены.

**Самагубства паліцыянта ў Н.-Троках.** У казарме 3 кампаніі пагранічнікаў у Новых-Троках стрэліў сабе ў лоб паліцыянт Станіслаў Тшэцяк.

**Падпал асадніка.** „Słowo“ піша, што ў вёсцы Гарполі, Пастаўскае гміны, ад падпалу згарэла гумно з збожжам і стайня вайсковага асадніка Чэслава Мікуцкага.

## Патрыотычны учынак.

(*Пісьмо ў Рэдакцыю*).

Каля двух месяцаў назад я паслаў па пошце ліст з рысункамі да „Авадня“. Хацеў скарыстаць з прыслугаваючага мне права і адрэс на купэрце напісаць пабеларуску, але нейкае прадчуцьце мне падказала, што будзе бесьпячней для лісту, калі я яго заадрасую папольску і вось я арфаграфічна і каліграфічна на купэрце напісаў: „Białoruska księgarnia, Wilno, Zawalna, 7“. Ліст гэты я аддаў у рукі самому ўрадоўцу, едучаму у паштовым вагоне з Ліды да Вільні.

Я быў спакойны за ліст і спадзяваўся пабачыць свае рысункі ў „Авадні“.

Якое-ж было маё зьдзіўленьне, калі я праз два тыдні запытаўся ў рэдакцыі „Авадня“ пра мой ліст, але яго яшчэ там ня было. Пасьля запытаўся праз месяц і цяпер праз два... а ўсё майго лісту няма, дый й ня будзе.

Дзе-ж ён падзеўся? Усяляк-жа заблудзіць ён ня мог, бо ад маей пошты да мейсца назначэньня меньш, як 30 кілямэтраў і гэты ліст пехатой мог-бы дайсьці праз 5—6 гадзін, а тут пошта праз два месяцы даручыць яго ня можа. Як відаць, мой ліст загінуў на пошце, але чаму?—Малая, але характэрная рэч. Чаму мог загінуць ліст на пошце, według wymagań zaadresowany i należycie opłacony? I неяк, сам сабой, насуваецца адказ, што па-

